# „МАЛАНКА“

## ЧАСОПІСЬ ГУМАРУ, ЖАРТАЎ І САТЫРЫ.

# 1928.



Рэдакцыя „МАЛАНКА“ Вільня, Гэтманская вул. № 2.

Друк. Крайнэс і Кавальскі Вільня, Вялікая 39.

ГОД ВЫДАН. III. Przesyłka pocztowa opłacona ryczałtem ЦАНА 30 ГРОШ.

# Маланка

ЧАСОПІСЬ ГУМАРУ, ЖАРТАЎ І САТЫРЫ

30. IV. 1928 „МАЛАНКА" СМАЛІЦЬ ШТО ДВА ТЫДНІ! № 5

— П. П. С. будзе дамагацца, каб у дзень 1-га мая было дазволена на адзін толькі работніцкі паход. Даведваемся, што П. П. С. пастанавіла дамагацца ад уладаў, каб у дзень 1-га мая, каб у дзень работніцкага сьвята, было дазволена толькі на адзін паход, арганізаваны стараньнем Акружн. Камітэту П.П.С.

(*„Кур'ер Віленскі"*, № 4).




**Паліцыянт:** А ты куды прэш? Асадзі назад. Ня бачыш, што П. П. С. па вуліцах ходзіць? — Сёньня яны на гэта манаполь маюць...





# З вясьняных мэлёдыяў.

## ПАНІЧ і МАРЫСЯ.

Сьвеціць месяц, сьвеціць,
Як дзюрка ў сярмязе,
Паніч за мужычкай
Бязустанна лазе.

Дваццаць год Марысе,
Кроў іграе ў целе,
З панскім сынам ночкі
Каратае, дзеле.

„Марыся, Марыся“!—
Гаворыць ёй маці:
„Кінь на паніча так
Вачамі міргаці!“

Яна як ня чуе
Матчыных мораляў:
Спусьці маці з вока,
Дзеўка й загуляла..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Пад лясок, за вёску,
Ды далей ад дому,
Ляціць на спатканьне
К панічу ўдалому.

Што з сабой там робяць,
Як час каратаюць?
Гэта хіба толькі
Яны адны знаюць...

Сьвеціць месяц, сьвеціць,
Як лысіна ў пана,
Мусіць быць нарэшце
Песьня дасьпявана

Ад пакус і ўцехаў
Крок адзін к пакуце,
Быці бабай дзеўцы...
Часам чорт наплуце...

... Панічу з паненкай,
З багатай Амэляй,
Ужо рукі вяжа
Ксёндз хусткай ў касьцеле.

Панічова-ж любка,
Марыся ўдалася,
На прылёты бусла
Сьлёзна паглядае.

Марыся, Марыся!
Галоўкі ня чухай,
Ня слухала маці,
Бабкі цяпер слухай.

**Янка Купала.**

---

## РАДА БУСЛА.

Слаўныя дзяўчаткі,
Дам маю Вам раду:
Не аддавайце сэрца
Вы панічу-гаду!

А лепш свайму хлопцу,
Што з простага люду,—
Тады сваіх „прэзантаў“
Вам насіць ня буду!..

**Бусель.**






╳ Кажуць, што растучая ў апошні час ў Польшчы даражыня перакінулася таксама на кіі, гайкі, гіркі і т. падобн. „ручныя рэчы“, ужываныя заўсёды раз у год—у дзень **1-га мая**.

╳ Кажуць, што рэдактары эндэцкіх газэтаў з прычыны „бандыцкіх“ нападаў на іх („Дзеньнік Віленскі“) будуць працаваць у намордніках. А ў рэдакцыйных кабінэтах будуць пастаўлены кулямёты і балёны з удушлівым газам.

╳ Кажуць, што сэнатар Багдановіч мае выдаць новую беларускую граматыку, якой закасуе ўсе папярэднія. Паводле гэтай граматыкі будзе пісацца:

**ХРІСТОСЪ ВОСКРЕСЕ!**

як гэта ўжо практыкавалася ў апошнім нумары „Праваслаўнага Беларуса“.

╳ Кажуць, што рэдакцыя „Сялянскай Нівы“ пачала рэдукцыю сваіх супрацоўнікаў. Зрэдукованых пацяшалі, што дадуць працу пры наступных выбарах.

╳ Кажуць, што пас. Валынец у хуткім часе мае запяяць „Спадару“: „разлука ты, разлука“...

╳ Кажуць, што „П. П. С.“ ў мэтах эканоміі мае перанясьці сьвяткаваньне дня „1-га мая“ на „3-га мая“.

╳ Кажуць, што рэдактар Умястоўскі, на выпадак паўтарэньня візыты „баёўкі“ Вернікоўскага, штодня носіць з сабой у партфэлі пару запаснога порця.

╳ Кажуць, што Чэтырка ў часе выбараў, носячы вялікія клункі, так падарваўся, што павінен паддацца небясьпечнай апэрацыі к...

╳ Кажуць, што тыя палітычныя партыі, якія ў часе нядаўнага галасаваньня абяцалі сялянам зямлю бяз выкупу, пастанавілі выканаць свае абяцанкі ў тым часе, калі ў Польшчы будзе панаваць „круль—Гарох І-шы“.

╳ Кажуць, што ад 1-га траўня (мая). Вы, дарагі чытачу, ня будзеце дарма чытаць „Маланку“, а неадкладна вышлеце належную падпісную плату...

Ці праўда?

**Крапіва.**

## Нэпія.

*(З радавага быту).*

Скарацілі ўсюды штаты —
Я бяз хлеба і бяз хаты.
Ўсюды трэсты, сындыкаты,
У мяне-ж на портках латы.
Нэп *) апдзеўся ў шаты-латы,
У мяне-ж на лаце лата.
Нэп вунь дыбае на „корках“,
А я шлэпаю ў апорках.
Нэп пахучы дым пускае,
Мне-ж махоркі не хапае.
Ох, у Нэпа кішанішча!
У мяне-ж дык вецер сьвішча.
Нэп сядзіць і грошы лічыць,
Мне-ж пад нос ён „дулю“ тычыць.
Жонка Нэпа—проста краля,
Мая-ж — так сабе Яўгаля.
Жонка Нэпа ўся у срэбры,
А Яўгаля ўся у зрэб'і.
Вунь у Нэпа дзеці скачуць,
А мае дык есьці плачуць.
Нэп імчыцца, шыны - гума—
Не дагоніш—і ня думай.
Едзе Нэп — зямля трасецца,
Мая-ж „пара“ ледзь пляцецца.
Залаты Нэп „зэгар“ мае,
А мой вунь на небе зьяе.
Нэп вандруе ў „галіфэ“,
У мяне-ж дык проста фэ!
Мясам корміць цюцьку Нэп,
А я сам брашу за хлеб.

### ШЧАСЬЛІВЫ.

— Пасьля разгрому „Грамады“ адзін селянін хваліцца суседзям.

— Вось мае дзеці, дык ніколі ў вастрозе сядзець ня будуць!

— А скуль ты наперад ведаць можаш?

— Бо — я зусім дзяцей ня маю.

### ПАПРАЎЛЯЕЦЦА.

— Ну, як-жа твая жонка, ці папраўляецца?

— Дзякую за памяць, папраўляецца: сёньня ўжо два разы сварылася са мной.

### ПАСЬЛЯ ВЫБАРАЎ.

— А вы, Марылька, за каго галасавалі ў часе выбараў?

— За Ігната Прыгожага.

— Ня знаю такога.

— Гэта — мой знаёмы. Ён казаў, як выбяруць яго паслом, тады будзе жаніцца са мной. Але цяпер нешта моршчыцца...

*М.*

*) «Нэп» —Новая Эканамічн. Палітыка.

### У СТРАЎНІ.

— Вось у гэтай страўні кормяць, як на забой.

— Чаму, як на забой?

— Бо ўчора мой знаёмы тут паабедаў, а ўвечары... памёр.

### НЕ ПРАВЯДЗЕШ!..

— Паненачка, калі ласка, дазвольце вас правясьці.

— Дудкі, мяне не правядзеш, — я не з такіх! Досыць мяне уланы навадзілі, дык я цяпер і сваіх баюся.

*К. С.*

### ПЕРШАЕ ПЫТАНЬНЕ.

— Разумееце, мой знаёмы ў мінулым тыдні, зяваючы, зьвіхнуў сабе сківіцу (пашчэнку)!

— Што-ж вы яму такое няцікавае расказвалі?

### У СУДЗЕ.

— Калі вы радзіліся?

— Ня ведаю дакладна, пане судзьдзя. Гэта было даўно: гадоў 30—40 таму назад, як яшчэ была жыва мая нябожчыца маці.

*Т. Б.*

### ПАНОВАМУ.

— А як гэтага хлопчыка прозьвішча будзе?

— Гм... прозьвішча яго доўгае: Ермаловіч — Шулейка — Марталь, дзеля таго, што ён ад трох бацькоў алімэнты (на ўтрыманьне) адтрывае.

*В.—М.*

### НЯ МАЕ ПРАВА.

Дзяўчына ў краме залатых рэчаў да кліента (купляючага):

— Купеце, пане, гэты прыгожы нашыйнік для асобы, якую вы любіце.

— Не, — адказвае кліент. — Так рабіць мне ня можна, бо я жанаты.

*Ж. Д.*

### ПАДЗЯКА.

Пан сьпяшаецца да цягніка. Спатыкае незнаёмага і пытаецца.

— Выбачайце, пане, якая гадзіна?

— Пяць мінут па шостай.

— А каб табе язык спух! Спазьніўся да цягніка.

*А. М.*

## Старая прыказка — на новы лад.




АДЗІН З СОШКАЙ — СЯМЁРА З ЛОЖКАЙ.

### ЗРАЗЗУМЕЎ.

Гарэ селянін, а йдзе паліцыянт і просіць бібулкі (паперы да курэньня). Селянін не зразумеўшы, адказвае:

— Скуль я табе вазьму булкі, калі навет у мяне хлеба чорнага няма. *Я. Г.*

### У РЭДАКЦЫІ.

— Чаму гэта ваша сэкрэтарка кожны дзень, пасьля дзённых гадзін працы, застаецца яшчэ ўвечары працаваць?

— Бо ўдзень ёй рэдактар перашкаджае. *Я. М.*

### АДВАЖНЫ.

— Які чалавек можа быць найадважнейшы?

— Лысы.

— Чаму?

— Бо яму ніколі валасы са страху на галаве ня стануць. *Л. Т.*

## Першы Май.

Дыктатар Літвы—Вальдэмарас забараніў па ўсёй Літве сьвяткаваць дзень «Першага Мая».

*(З газэт).*

Вясна!

Першы Май!

Дзень радасны!

Радасны... але гледзячы каму.

Радасны для паслоў, бо ў гэты дзень бяруць дыеты. Урадоўцы—пэнсію. Гаспадар за кватэру:

Радасны навет і для пэпэсаўіхная сёньня бярэць! У іх усё ідзе, як па масьле, выцьвіўшы сьцяг на чырвона падмаляваны. Выплесьнеўшыя лёзунгі адноўлены. Навет паперку каму трэба падалі, каб ніхто пад іх нагамі ня швэндаўся.

— Прэч з дарогі, мелката, — „П. П. С." ідзе!

Ідзе, а на сьцягу:

„*Пролетары ўсіх краёў злучайцеся!*"

Але...

Толькі але...

Толькі належачыя да партыі „пэпэсаў".

Але калі пападзецца па дарозе работнік не з „П. П. С.," дык у косьць яго!

— Чаго хадзіць нам замінаеш!

Ідуць „пролетары."—Найбольш лысыя, пузатыя. Нейкую песьню пад нос бубняць і перад кожным касьцёлам жагнаюцца.

Пахадзізі, пахадзілі, дый разыйшліся, як авечкі, спакойненька.

„П.П.С-ам" добра і для ўлады люба:

— Ай-да Малайцы „П. П. С-ы"! З імі ні шуму, ні крыку. — Вядома, свае людзі!

А газэты на другі дзень дробным чортам рассыпаюцца:

— Ого, у нас! — Дэмакратызм, толеранцыйнасьць, констытуцыя! Усё, што хочаце...

Едзьце, кажуць, у... у... у... Румынію. Гэта, кажуць, — саюзьніца наша. Ці-ж там так?!

Задумаў ты „*Першага Мая*" сьвяткаваць, а паліцыя ўжо наперад ведае, што і як. Хап цябе за полы ды на „Лукішкі"!.. (Цьфу памыліўся, — лёгкія па ўспамін, бачыце). У вастрог, значыцца, павялі. А там такіх як ты паўнюсенька. Як мурашкі ў мурашніку сядзяць.

А паліцыя ўсё садзіць і садзіць...

Насадзіла колькі ўлезла. Але... ня ўсіх, — шмат яшчэ на волі засталося.

Тыя „*Першага Мая*" на вуліцу. І, о, страх! — чырвоныя сьцягі з сабой і там песьні розныя...

Паліцыя, як убачыць гэта зараз з коньмі ў народ, дый перш шашкамі, а пасьля прыкладамі. Пачаў разьбягацца народ, а кулямёты:

Та-та-та... Та-та-та...

Дык вось як у Румыніі! — На тое там кароль пастаўлены, каб парадку пільнаваў.

Або, напрыклад, у Літве. Там Вальдэмарас. Чалавек ён добра граматны, — прафэсар. — пісаць умее.

Чырк-чырк на паперцы і гатова:

„*Першага Мая*" і няма!

Хоць ваўком завый, а няма!

Ня хоча Вальдэмарас, каб *пролетары ўсіх краёў злучаліся.*

Няхай сабе злучаюцца, дзе хочуць, а ў Літве ня можна.

Упрэцца ён, як вол, і... не паз воліць.

А калі хто наважыцца, дык таўроскую расправу*) паўтарыць можа.

Не дзеля таго ён езьдзіў у Рым да Мусоліні, каб тут цяпер з нейкай галітой цэрамоніцца.

. . . . . . . . . . . . . .

Дык вось, як у людзей!

А ў нас?

У нас: запішашся ў „П. П. С." дык сьвяткуй „1-га Мая", колькі хочаш!.. А ня ўдасца, дык „3-га Мая" адсьвяткаваць можаш...

Вось і ўсё!

**Барыс М.**

*) Паўстаньне ў Таўрогах, крывава спыненае Вальдэмарасам.




**Кандуктар:** Куды лезеш, бачыш вагон „*службовы*“!
**Пасажыр:** Служ-бо-бо-вы?! Што мне значыць „службовы“, калі я ўжо „службовых“ з дзесяць стукнуў?!

## У школе.

Настаўнік пытае малога Васілька.
— Скажы мне, малы, з чаго зроблены твой шарачок?
— З сукна.
— Правільна. А з чаго робіцца сукно?
— З воўны.
— Малайчына. А воўну хто нам дае?
— Авечкі.
— Разумнік! Значыць, якая жывёліна дала табе гэты шарачок?
— Бацька...

*Янтар.*

### НАШЫЯ ДЗЕЦІ.

— Яначка, злажы ручкі і папрасі ў Божанькі здароўя.
— Ня хоцу здалоўя, лепш — мёду.

*А. Г.*

### НА АМАТАРСКАЙ СЦЭНЕ.

Рэжысэр абурыўся на артыста:
— Мы маем гуляць п'есу з жыцьця Сыбіру, — трэба было цёпла апрануцца, а вы прыйшлі ў нейкай падзёртай куртачцы! Скуль я вам цяпер кажух дастану?
— Нічога, ня турбуйцеся, я маю пад сподам цёплыя нагавіцы.

*Я.*

### ПЕРАДЧАСНАЯ РАДАСЬЦЬ.

Муж заявіў у паліцыю што прапала яго жонка. — Праз некалькі дзён прыходзіць паліцыянт і кажа:
— Ведаеце што, мы здаецца знайшлі вашу жонку.
— Няўжо? Што-ж яна кажа?
— Казаць, дык яна нічога ня кажа...
— Тады гэта не мая жонка.

*С. Ж.*

## Няма дурных.

**Асаднік да селяніна:** Можа *пан да запаліць?*
**Селянін:** Няма дурных! Перш дай табе за палец, а пасьля схопіш і за руку.

### ЁН ПРАВАСЛАЎНЫ.

Камэндант піша пратакол на селяніна за тытун і пытаецца:
— *Поведзь іме ойца...*
— Паночку, я праваслаўны, — польскіх пацераў ня ўмею.

### НЕ ЗАПЛОЧАНЫ.

— Пане майстру, не прайшло нядзелі, як узяў я ад вас гэтыя боты, а яны ўжо пачалі крывіцца.
— Крывіцца! — Нічога дзіўнага, бо не заплочаны...

Я. М.

# Як распаўсюджваць полёнафільскія газэты.

(*Падручнік для пачынаючых*).

Пасьвячаецца нядаўна нарсджанай часоп. «Грамадзянін».

*„Маланка“.*

Як вядома, полёнафільскія газэты выдаюцца на „цёмныя грошы“.

Што-ж гэта такое „цёмныя грошы“, дзе і як яны здабываюцца?

Было-б памылкай думаць, што „цёмныя грошы“ маюць які-небудзь асобны колер, або выгляд— гэта самыя звычайны грошы, часта навет новенькія хрумсьцячыя.

Здабываюцца яны рознымі спосабамі, але аб гэтым у наступнай лекцыі.

Цяпер перайдзем проста к вывучэньню спосабаў, як найлепш распаўсюджваць успомненыя полёнафільскія газэты.

. . . . . . . . . . . . . . .

Па адтрыманьні якім-небудзь спосабам „цёмных грошаў“, выдавец прыступае да выпуску газэты.

Першы нумар друкуецца ў колькасьці 5000 экзэмпляраў. Пад вечар выдавец ламае галаву: якім спосабам распаўсюджваць газэту. Выясьняецца, што высланыя на места хлопчыкі на чале з вядомым „Ванькам“ не прадалі ніводнага экзэмпляра.

Звычайна, вынікі першага дня паказваюць, што неабходна трэба прыступаць к „энэргічнаму распаўсюджваньню газэты“.

Спосабраспаўсюджваньня адзін: некалькі чалавек з рэдакцыйнага пэрсаналу раньнім ранкам узбройваюцца вяроўкамі, кіямі з кручкамі на канцох і некалькімі нумарамі толькі што выйшаўшай газэты...

Убачыўшы на вуліцы чалавека, гоняцца за ім.

— Трымай яго!! Лаві! Людзі хрышчоныя, лавеце падпісчыка! Панове даражэнькія, атрымайце яго.

Чуючы нядобрае, праходжы ляціць, як страла, але спрытныя супрацоўнікі газэты даганяюць яго і, зачапіўшы кіем за нагу, валяць на зямлю.

— А, дзень добры!.. Ну, як, што чуваць?.. Выбачайце, можа падпішацеся на нашу газэту? Вельмі добрая газэта. Праўдзівабеларуская, гаспадарскія парады ёсьць... Далібог, падпішэцеся.

— Не хачу я вашай газэты Пусьцеце мяне! Ратуйце!

— Што? Ты чаго крычыш, дурань? Дай яму, Сашка, па нюхаўцы.

— Раттт...

— Лупі яго! Вось так... Па мардасах! Пад ложачку... Брэ-эшаш... падпішашся!

— А вось не падпішуся!

— Раттт... уйце!

Падбягае паліцыянт.

— Што тут за гутаркі? Ня можна на вуліцы гугарыць!

— Паліцыянт! Вось гэтыя... білі мяне. Запішэце іх.

— Хто такія? Ты хто такі? Адрэс?

Запісваюцца адрэсы ўсіх удзельнікаў непарадку. Адрэс пацярпеўшага запісваецца ня толькі паліцыянтам, але і супрацоўнікамі газэты, пасьля чаго на другі ўжо дзень пацярпеўшы пачынае адтрымліваць газэту.

Дарэмна ён закідвае рэдакцыю пісьмамі з просьбай не рабіць гэтага, дарэмна зварочвае высланыя яму нумары—кожнага ранку паштальён акуратна прыносіць яму газэту.

У канцы году пацярпеўшы адтрымлівае разам з газэтай і рахунак на 6 злотых, а па нейкім часе „вэзване“ ад міравога судзьдзі аб заплаце коштаў судовых, як „прэнумэрату“ своечасна не аплачаную за высыланую ў працягу году газэту.

Кожнага ранку выходзяць спрытныя малайцы на лоўлю падпісчыкаў, і тыраж газэты паступова, але ўсё вышэй і вышэй расьце...

Расьце таксама ў Заходняй Беларусі і лік самагубцаў, і дэмакратычныя газэты акуратна падаюць аб іх у хроніцы „жыцьцё збрыдла“, „напрыкрылася абставіны“, „усё абрыдла“ і гэт. д., але нікому ня прыходзіць у галаву сьцяміць, ці ня маюць гэтыя выпадкі самагубстваў, што супольнае з распаўсюджваньнем падпіскі полёнафільскай прэсы.

А вось запытацца-б добра самых самагубцаў—усе яны напэўна зьяўляюцца такімі падпісчыкамі.

*Насьледавана з* **Ave.**




# РАЗГАДКІ.

**Загадкі гл. ў № 4 „Маланкі“**

1—Сто „й“.
2—Печ, агонь, дым.
3—Цьвік у абцасе.
4—Трое гусей.
5—Ён адарваў хвост у каровы.
6—І насеньня і злодзея саджаюць (адно ў зямлю, другога ў турму).
7—З літары „б“.
8—Стол і падлога.

## НАЙЛЕПШАЯ ЧАСОПІСЬ.

— Якую з беларускіх часопісаў ты найлепш любіш?

— Я—„Маланку“, а жонка дык „Беларускі Дзень“, — усю хату і сені ім павыклейвала.

## АД ЧАГО НЕПАГОДА.

Бабулька накідваецца на сваіх ужо дарослых дзяцей:

— Не хацелі слухаць ксяндза, не галасавалі за яго нумар, дык вось цяпер Бог вясны не дае: ужо другі тыдзень сьцюдзена, дождж, вятры, сьнег. — Патоп сьвету ня йначай!..

*Я. М.*

## ВЫСОКАЯ ЗАПЛАТА.

Селяніну забалеў зуб. Пайшоў ён да фэльчара-дантыстага. Пасьля апэрацыі пытаецца:

— Колькі вам, пане, заплаціць за зуб?

— Два злотых.

— Больш паўзалатоўкі ня дам, а калі мала, дык можаце зноў уставіць зуб на старое месца. Жартачкі, за адзін зуб ды два злотых! ды я вам за трыццаць грошай усе зубы павырываю, — ні аднюсенькага не застанецца.

*Я. З.*

## „ПОВУД“ і ПОВАД.

У аднэй вёсцы павесіўся з роспачы селянін. Паліцыя робіць „*дох.дзэне*“.

— *З якого поводу* павесіўся чалавек?

— Паночку, повад быў здаровы, на ім ён і павесіўся.

*А. Г.*

# Народны гумар.

## „ВЯЛІКОДНАЕ“ ПАВІНШАВАНЬНЕ.

Некалі, у часы паншчыны, быў звычай, што валачобнікі, назьбіраўшы па пары яек з хаты, ішлі з імі ў двор да пана і давалі гэтыя яйкі пану ў падарунак.

Віншаваньне складалася з таго, што старшы з валачобнікаў казаў віншаваньне, а рэшта паўтарала хорам: „І панечцы-дабрадзейцы, і дзеткам-панятам і ўсяму панскаму дому“.

Прыйшлі ў двор. Зьявіўся пан. Старшы пачынае:

— Мы нявольнікі Божыя і вашы прышлі аддаць прывітаньні вяльможнаму пану...

— І панечцы-дабрадзейцы, і дзеткам-панятам і ўсяму панскаму дому! — падхопліваюць усе.

Старшы цягне далей:

— Ад шчырага сэрца жадаем здароўя, доўгіх гадоў жыцьця і ўсякага дабрадзейства вашай міласьці.

Грамада ізноў:

— І панечцы-дабрадзейцы, і дзеткам-панятам і ўсяму панскаму дому!

Тут старшы ступіў наперад, каб падаць пану кашолку з яйкамі, але... плясь, — пакаўзнуўся на сьлізкай падлозе і яйкі паляцелі на пана.

— А бадай табе скула ў бок, — ня стрымаўся старшы.

А грамада:

— І панечцы-дабрадзейцы, і дзеткам-панятам і ўсяму панскаму дому!... *Бэдэ.*

## НІ КАРОВАК НІ МАНДАТУ...

Пан Быхавец „*хлоп муровы*“,
Прадаў жыдом „*вшыстке кровы*“
Галасы ў людзей купляў
І у Сойм... ох!... не папаў...
Хоць ён меў уласны сьпісак
І быў першы кандыдат,
У Сойм ехаць рыхтаваўся,
Але.. абмінуў яго мандат!...
Злая доля! Злое ліха,
Трэ' кароўкі купляць зноў!
І „абаронцам“ ў Перадзельску
Сядзець трэба, ох!... ізноў...

*М. З.*

## СПОСАБ АД МЫШЭЙ.

У маёнтку загарэлася панская абора. Аконам зганяе парабкоў гасіць пажар.

— Э, нашто яе гасіць, — ад'зываецца парабчук, — абору хай чорт бярэ, але затое мышы пасмаляцца. *Уладук.*

## ЯШЧЭ МОЖНА ІГРАЦЬ...

Да аднэй парафіі прыехаў на візытацыю біскуп. Тутэйшы ксёндз быў скупы і не хацеў біскупа пачаставаць, а дзеля таго казаў сваёй гаспадыні схавацца ў адну з шафаў.

Агледзіўшы ўсё, біскуп затрымаўся перад шафамі дый пытае:

— Што ў гэтай шафе?

— Розныя паперы, — адказвае ксёндз.

— А ў гэтай?

— Розныя кніжкі.

— У гэтай?

— Тут... тут... старыя арганы.

Заўважыў там біскуп гаспадыню дый адказвае:

— Але, — хоць старыя арганы, але можна яшчэ іграць...

*М. С.*

## ЦЕСНАЯ ХАТА.

Валасны пісар выдае пасьведчаньне жанчыне і пытаецца:

— Колькі маеце дзяцей?

— Толькі васьмёра...

— А чаму ня маеце болей? — жартуе пісар.

— Калі ў нас хата вельмі цесная. *Я. М.*

## ВАЖНАЯ ФІГУРА.

Гультай, п'яніца, нядбалы
На ўсю вёску быў Лявон,
Але затое быў у чыне —
Служыў солтысам з давён.

Неяк раз прышла жанчына,
Што падатак прынясла —
Зьмерзла, бедная, ў дарозе,
Дык як трасца ёй трасла.

— Годзі цётка, — кажа солтыс, —
Прада мной ты ня дрыжы
Я хоць солтыс і грамадзкі,
Але папростаму кажы!...

*Я. Зв.*

## НА ВЯЛІКДЗЕНЬ.

Сяляне валачобнікі пайшлі віншаваць пана са сьвятам і кажуць яму:

— Хрыстос Уваскрос!

Пан, добра не разабраўшы, бо ня ведаў зусім беларускай мовы, пытаецца:

— Калі?

— Сёньня.

— А паліцыя аб гэты ведае? — зноў пытаецца пан.

— А як-жа, ведае...

— Ну, яны яму зададуць дыхту! Дзякуй, што сказалі! Можаце сабе ісьці дамоў. *К. С.*

## СЛУШНА.

— Скажы, якая розьніца паміж „Маланкай“ і гарэлкай?

— За гарэлку трэба плаціць тры злотых за бутэльку. А як вып'еш, дык дзень ходзіш, як дурны, ды яшчэ шкоды наробіш, а за „Маланку“ трэба плаціць усяго два злотых і тры месяцы ходзіш вясёлы і здаровы.



## МУЖЫК І КЛАПЫ.

Ў курнай хаце мужыка,
Дзе здаўна вяліся
Тараканы, прусакі, —
Клапы завяліся.

Чухаў бакі гаспадар,
Скраблась гаспадыня...
А як лягуць яны спаць, —
Клапы у пярыне.

Так і ходзяць хадуном,
Поўзаюць казяўкі,
Кроў чырвоную з усіх
Смокчуць, быццам п'яўкі.

Неяк раз да іх зайшоў
Віленскі паночак,
Як зірнуў на сьцены ён,
Дык ажно падскочыў.

„Што ты, кажа, ці сьляпы?
„Як жыць можна гэтак?
„Бач, вось гэтыя клапы
„Зьядуць цябе й дзетак!“

Мужык чухнуў сябе крыху
Там, дзе было трэба:
„Эх, паночак! я ня згіну,
„Пакуль хопіць хлеба!

„Былі ў мяне прусакі,
„Пасьля тараканы, —
„Хай цяпер клапы сабе
„Пажывуць, бы паны!

„Гэты сытыя усе,
„Добра ім жывецца,
„З часам іх я праганю, —
„Зусім не застанецца.

„З імі яшчэ не бяда...
„А як прыдуць другія?! —
„І напэўна будуць ўсе
„Галодныя, злыя...

„Вось тады узвыю я!..
„Не, калі лёс хоча
„Кроў маю каб нехта піў, —
„Хаў лепш п'е клапочак!

*Бэдэ.*

# ЗАПАРЫЛІСЯ...,

„У Маскве паўстаў проект выбудаваць лазьню, ў якой людзям, якія мыюцца, будзе выдавацца пры выхадзе іхняе порце, ужо вымытае і выгладжанае.



— Ну, дзякаваць Богу, дадумалася жонка: абед нясець... А то другі дзень тут ня жоршы сяджу! *(З радав. гумару).*

## НАША ПОШТА.

**Язэп Бадзяк**: З прысланага матар'ялу нічога амаль не падышло. Выбарныя „жарты" ўжо неактуальныя, а за „сьвежыя навіны" мы можам увайсьці ў спрэчнасьць з Прэсавымі Уставамі.

**Пётра Літні**: Вершу Вашаму „*Не давайце напавер*" зрабілі гонар, бо ня кінулі ў кошык, а палажылі ў рэдакцыйны архіў. Верш добры, але вельмі расьцягнуты. Каб яго зьмясьціць, трэба было-б выпусьціць падвойную „Маланку".

**Малы Дубок**: Верш Ваш „*Жыцьцё лесу*" надаецца да жабрацкіх песьняў пад касьцёлам, а не ў „Маланку". Вось частка:

... „Раптам сонца засьвяціла,
„Прамень вось яно пусьціла,
„Усё навокал асьвяціла
„І ад сну лес прабудзіла"..

Няма тут ні складу, ні ладу... ні гумару.

**Я. Бакачка, М. Вольны, Я. Кісель, Язэп Бадзяк і шмат інш.** Усе Вашы „творы" пра Паўлюкевіча і яго кампанію пайшлі ў кошык, а стуль у печ. Пара на ім паставіць асінавы кол і навет а ні добрым, а ні кепскім словам не ўспамінаць.

**М. Саладуха**: Жарты Вашы вельмі добрыя. Чытаючы іх, мы сьмяяліся шчыра, але ў „Маланку" зьмясьціць ня можам, сконфіскавалі-б напэўна.

**Гаварун**: Верш Ваш „*Нас страшаць*" з вялікага страху пайшоў у кошык.

**С. Тамашэўскі**: Спазьніліся вельмі з сваім жартам. Нябошчык Ядвігін Ш. даўно выкарыстаў „Вашу" тэму і напісаў жарт „вучоны бык".

Вось ліст Ваш дык сьмешны! Хоць вы ведаеце беларускую мову, але ліст свой да нас пішаце папольску і то такой ламанай мовай, што і конь з яе сьмяяўся-б!..

**Сымон Адуванчык**: У вершы Вашым чытаем:

.. «Аднаму Паўлюку скуката, —
«Невясёлы ён ходзіць,
«Ен надумаў жаніцца,
«Ды дзяўчынка ня йдзе за яго»...

Нічога і мы парадзіць ня можам Вашаму Паўлюку. А Вам дык дадзём добрую раду: ня пішэце вершаў!

**Мацей Бубен**: Вы пішаце:

«Ох, баліць мая галовачка
«І на сэрцы нудна»...

Кажуць, што ад гэтага содавая вада памагае.

**Янка Малады**: Вы прыслалі нам няўдалы верш і пішаце: „прашу мой верш абавязкава зьмясьціць." А мы яго *абавязкава* ў кошык! Замалады Вы на тое, каб нам гэтак загадваць.

### Да ўсіх падпісчыкаў, чытачоў і сымпатыкаў „Маланкі".

Грамадзяне! „Маланка" часта зворачвалася да Вас з благальнай просьбай прыйсьці ёй на помач, пашыраючы лік яе платных падпісчыкаў. Але просьбы нашы найбольш траплялі, як гарох аб сьценку. З пачаткам вясны лік платных падпісчыкаў „Маланкі" катастрафальна спаў, а толькі пабольшыўся лік лістоў, у якіх просяць высылаць „Маланку" ў крэдыт, або і зусім дарма. Такія лісты ідуць адразу ў кошык, а дзеля гэтага перасьцерагаем больш не прысылаць.

Шмат нясумленных чытачоў, якім па іх просьбе доўгі час высылалі „Маланку" ў крэдыт, да гэтай пары навет не надумаліся прысылаць падпіску, хоць на самы кароткі тэрмін, чым прынясьлі „Маланцы" вялізныя матар'яльныя страты.

Рассылаючы гэты нумар, прыступаем да гэнэральнай чысткі сярод нашых падпісчыкаў. Усім, хто задаўжыўся нам, высыланьне „Маланкі" будзе спынена назаўсёды. Хто ня хоча, каб спаткала яго гэткая прыкрасьць, хай неадкладна ўрэгулюе свой доўг.

Тры мільёны беларусаў, якія пражываюць у межах Заходняй Беларусі, ёсьць аж зашмат, каб уласнымі сіламі ўтрымліваць свае часопісі.

Дык падтрымайце адзіную ў нас беларускую гумарыстычную часопісь!!!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
**ВІЛЬНЯ, Гэтманская вул., № 2**
«МАЛАНКА»

ПАДПІСНАЯ ЦАНА:

на 1 год 8 злот.
„ паўгода 4 „
„ тры мес. 2 „
„ адзін м. 1 „

За граніцу: на год — 2 даляры, на паўгода—1 д. на 3 мес.—50 цэнт.

Рэдактар М. Луцэвіч. — Выдавец: Я. Маразовіч. Друкарня Б. Клецкіна, Вільня.